№ 22 (138). Вільня, 25 Кастрычніка 1938 г. Год X.




# Новыя граніцы і новыя гаспадарствы ў Эўропе

Дасюль, агульна бяручы, ніхто бадай ня верыў у тое, што можна зьмяніць граніцы, а тым больш стварыць гаспадарства-дзяржаву, без ужыцьця аружнае сілы і без масавага разьліву крыві. Аднак падзеі 1938 году пагляд такі скасавалі. Бо вось сяньня зьяўляемся сьведкамі паўстаньня двох новых гаспадарстваў: Славакіі і Закарпацкай Украіны — арганізаваных шляхам адпаведных перагавораў і пастановаў. Цікавіць гэта перад усім тыя народы, каторыя ўжо тварылі свае незалежныя дзяржавы і каторых імкненьні ў гэтым кірунку ня зьдзейсьніліся. Цікавая гэтая праблема і для беларускае моладзі, дзеля таго пастараемся ніжэй, хоць коратка, разглядзець і пазнаёміцца з гэнымі новымі гаспадарствамі, а галоўна з іхнімі гістарычна-географічнымі данымі і эволюцыяй, разьвіцьцём іхняга нацыянальнага руху.

## Славакія

Славакія ляжыць на поўдзень ад Карпацкіх гораў да рэкі Дунаю. Граніччыцца з поўначы з Польшчай, з усходу — з Закарпацкай Украінай, з поўдзеня — з Мадзяршчынай і з заходу — з Чэхіяй. Займае абшар каля 50,000 кв. клм. Край гэты мае шмат гораў, лясоў, быстрых рэчкаў і прыгожых краявідаў. Агулам небагаты, хоць глеба родзіць там жыта, пшаніцу, расьце вінаград. Найбагацейшай мясцовасьцяй ёсьць Крэмніца, дзе знаходзіцца невялікая капальня золата. Найбольшым местам і сталіцай ёсьць Братыслава, каторая мае 100,000 жыхараў. Усіх Славакаў налічаюць цяпер 2 з палавінаю міліёнаў. Пад узглядам рэлігійным Славакі бадай усе каталікі, крыху толькі ёсьць лютаранаў. Займаюцца-ж яны пераважна земляробствам.

Славацкі Народ мае сваю глыбокую мінуўшчыну. Ужо ў IX стагодзьдзі Славакі мелі сваё самастойнае гаспадарства і ў гэным стагодзьдзі прынялі хрысьціянства. Пасьля аднак трапілі ў няволю да Мадзяраў (Вуграў), каторыя забраўшы Славакію ў свае рукі гаспадарылі так як хацелі цэлае тысячугодзьдзе. Доўгія гады супольнага жыцьця Славакаў з Мадзярамі рабілі сваё. З славацкага народу выходзілі вялікія людзі, вялікія таленты і ўзбагачвалі мадзярскую культуру. З славакоў выйшаў найвялікшы мадзярскі паэт Александар Пэтровіць - Пэтэфі, пісьменьнік Колёман Мікшат, слаўныя біскупы і кардыналы і ўсё яны славілі імя Мадзяршчыны. — (Якое-ж сапраўды вялікае падабенства да нашае беларускае мінуўшчыны. Гэта-ж і сыны нашае зямлі ўзбагачвалі культуру і літаратуру суседніх народаў.)

Ня глedзячы на вялікі націск Мадзяраў і на цяжкае нявольніцкае палажэньне, Славакі пачалі адраджацца. І спачатку (пачатак XIX ст.) пакрысе, а пасьля з што-раз большай сілай адпіралі мадзярскі наступ, адраджаючы сваю культуру, літаратуру і будзячы народ да нацыянальнае сьведамасьці. Кліч волі магутнеў.

На пачатку XX ст. на чале славацкага адраджэнскага руху стаў вялікі славацкі патрыота кс. Андрэй Глінка, каторы вёў Славакаў у барацьбе за волю да апошняга часу, памёр-жа сёлета, за месяц прад абвешчаньнем Славацкае Дзяржаўнасьці. Фактычна Славакі ў 1918 г. былі ўжо падгатаваны да самастойнага жыцьця. Але паслухаўшы рады Чэхаў, з якімі адначасна вызвольваліся з-пад аўстра-вугорскай няволі, стварылі супольную Чэха-Славацкую Рэспубліку. Сужыцьцё ўсё-ж-такі ня йшло зусім гладка. Славакі многа наракалі на Чэхаў і дамагаліся поўнае аўтаноміі, на што Чэхі, пасьля адлучэньня ад Чэхаславакіі Судэцкага Краю, згадзіліся. Стварыўся славацкі ўрад, на чале з наступнікам кс. Глінкі, кс. Тісо, каторы пачаў заводзіць новы лад, нясучы Славакіі поўную свабоду. І цяпер Славакія з Чэхіяй зьвязана толькі фэдэрацыяй, як роўны з роўным. Такім чынам пасьля тысячугодняе няволі, Славакія йзноў паўстала, каб жыць самастойным жыцьцём.

## Закарпацкая Украіна

На ўсход ад Славакіі, а на поўдзень ад зямель, на якіх жывуць украінцы і палякі, у бок Румыніі і Мадзяршчыны, сярод гор і лясоў ляжыць другая краіна, што паўстае да самастойнага жыцьця. Край гэты завецца Закарпацкай Украінай, ці як некаторыя кажуць Прыкарпацкай Руcьсю, бо паўночная частка яго апёртая на Карпацкіх горах. Займае яна 12.700 кв. клм. Жыве там каля 750,000 жыхароў, з каторых украінцаў ёсьць каля 450.000 — г. зн. 62 працэнты, мадзяраў 109,000, жыдоў 91,212, румынаў 14.258, славакаў і чэхаў 26,876, крыху немцаў і інш. Паводле веравызнаньня 65 працэнтаў на-

сельніцтва грэка-каталікі або рыма-каталікі, 9 прац. праваслаўных і пакрысе іншых. Насельніцтва займаецца пераважна земляробствам і гадоўляй жывёлы. З натуральных багацьцяў ёсьць невялікія капальні солі і нафты. Пры тым край гэты ёсьць важным камунікацыйным абшарам. Праз яго праходзіць пяць вялікіх чыгуначных шляхоў. Лучаць яны Славакію, Чэхію і Нямеччыну з Румыніяй, і Польшч з Мадзяршчынай. Найбольшым местамсталіцай зьяўляецца Ужгорад, — мае ён 40,000 жыхароў.

Ад XIII стагодзьдзя аж да развалу Аўстра-Вугорскага царства Закарпацьце належала да Мадзяраў і яны, падобна як славакаў, так і закарпацкіх украінцаў імкнуліся змадзярызаваць. Ратавала украінцаў вялікая прывязанасьць да свае веры і роднае мовы. Гэта не дало ім загінуць. Усё-ж-такі няволя зрабіла вялікі глум. Край быў апушчаны, занедбаны, цёмны, пры тым пераход расейскага войска ў 1849 г. прычыніўся да таго, што частка украінцаў сталася масквафільскай. Стварыўся падзел, каторы і цяпер Украінцы моцна адчуваюць.

У 1918 г., калі кончылася Усесьветная Вайна і калі прэзыдэнт Злуч. Штатаў Паўноч. Амэрыкі Вільсон кінуў кліч самаазначэньня народаў, Закарпацкая Украіна так, як і іншыя паняволеныя краі, дамагалася незалежнасьці. Прэзыдэнту Вільсону быў даручаны адпаведны мэморыял, у адказ на які прыйшла рада, што найлепш будзе, калі Закарпацьце злучыцца з Чэхаславакіяй як аўтаномная правінцыя, што і сталася. З часам-жа уладу поўнасьцю пераняли ў свае рукі чэхі і без аўтаноміі. Украінцы аднак не падалі духам, пашыралі ў народзе нацыянальную сьведамасьць, лю боў да свае нацыянальнае культуры, дамагаліся ўсьцяж належных ім правоў як народу і сяньня, як бачым, дачакаліся тае шчасьлівае хвіліны, што маюць сваё самастойнае гаспадарства зьвязанае з Славакіяй і Чэхіяй толькі фэдэрацыяй. Стварыўся ўжо карпата-украінскі ўрад, каторы далей будзе разьвіваць сваю краіну нясучы ёй лепшую і сьвятлейшую будучыню. Факт гэты напаўняе радасьцю сэрцы ўсіх Украінцаў, узмацняючы ўвесь украінскі адраджэнскі рух.

***

На заканчэньне трэба сьцьвердзіць, што да асягненьня поўнае аўтаноміі Закарпацкае Украіны і Славакіі прычынілася перад усім нацыянальная стойкасьць і вытрымаласьць жывучых там украінцаў і славакаў, а так-жа падняты Гітлерам сёлета кліч самаазначэньня народаў, ды тое цяжкае палажэньне, у якім апынулася апошнім часам Чэхаславакія. Факт безкрывавага паўстаньня новых гаспадарстваў дае вялікія надзеі тым усім народам, каторыя дагэтуль ня маюць самастойнасьці і каторыя ўважаюць яе за найвялікшы свой нацыянальны ідэал. Мае гэта ўсё вялікае значэньне тымбольш што падзеі далей разьвіваюцца.

Я. Н.

## Наш шлях

*Шлях наш просты, хоць цярністы,*
*Хоць пад гору ён ідзе,*
*Хоць ён вузкі, камяністы,*
*Але к долі нас вядзе.*

*І па ім сярмяжны шэры,*
*Пнецца сьмела наш народ,*
*І нішто ня згасіць веры,*
*Ня стрымае яму ход.*

*На гары агонь відаці —*
*Нехта сонца запаліў —*
*Яно будзе асьвячаці*
*Шлях, каб брат наш ня блудзіў.*

*Янка Чорны.*

## Скажы

*Ну скажы, не таі, мая любка,*
*Ну скажы, ці кахаеш мяне,*
*Дзень пагас і заляжа ноч хутка*
*А жыцьцё мне так сумна імкне.*

*Ну скажы, не таі, мая любка,*
*Проста, шчыра ад сэрца ўсяго,*
*Ці мне шчасьце аб'явіцца хутка,*
*Ці пырхне ў даль, бы птушка яно.*

*Ну скажы, не таі, мая любка,*
*Гэтак доўга балюча чакаць,*
*Дзень пагас і заляжа ноч хутка,*
*Зараз зоркі агнём замігцяць.*

*Гэткай ноччу прыгожай, красуняй*
*Ня смуці ты маўчаньнем мяне,*
*Я кахаю, я мучуся сумам,*
*А жыцьцё усьцяж хутка імкне.*

*Янка Красавік.*

**Грамадзяне! Памятайце аб беларускай моладзі і прысылайце ахвяры на дапамаговы фонд беларускім незаможным а здольным вучням і студэнтам на адрыс: Red. „Šlachu Moładzi" — Wilno, Zavalnaja vul. 1—2.**
**Памятуйма, што свая беларуская інтэлігенцыя найлепш дбае аб дабро для свайго Беларускага Народу!**

Пётр Ластаўка

## Александра Гурло

Далёка ад роднага Краю, як палітычны ссыльны, памёр сёлета ў СССР, аб чым было ўжо у „Шляху Моладзі," адзін з лепшых сыноў нашае Бацькаўшчыны, пясьняр Алесь Гурло. Паэт гэты, бязспрэчна укладаўшы у скарбніцу беларускае літаратуры ўсю сваю душу, працаваў перадусім для свайго народу і заслужыў на тое, каб бліжэй з ім пазнаёміцца.

Александр Гурло радзіўся ў 1892 г. ў м-ку Капыль. Паходзіў з сялянскай беднай сям'і, дзеля чаго, калі падрос, спатыкаем яго, як маладога йшчэ сусім хлапца, у Пецярбурзе, дзе пачаў цяжка працаваць па фабрыках як работнік.

Папраўдзе, ня дзіўна гэта, што тагачасны паэт цяжка фізычна працаваў. Спатыкаем гэта і сяньня. Колькі-ж слаўных нашых маладых сілаў цяжка працуе на кавалак хлеба, сілаў такіх, каторых творчасьць ідзе заграніцу. А ведаем добра, што некатарыя з іх зарабляюць на кавалак хлеба падзёншчынай па дварох ці на іншых работах (напр. Машара), а вяртаючыся позна дамоў, пішуць, стараючся кінуць сьвятло ў сьвет шырокі ў родных словах і выявіць праўду горкага жыцьця нашае Бацькаўшчыны.

Гэта самае было й даўней. Гэтак было і з АлександрамГурло. З першымі пробамі сваей творчасьці Александар Гурло выступіў у 1909 г. і ад гэтага часу пачаў друкавацца ў часапісах: „Наша Ніва," „Маладая Беларусь" і іншых. Дзеля гэтага можна залічыць паэта да „нашаніўскае пары," хаця розьніца паміж тагачаснымі беларускімі паэтамі і А. Гурло, была вялікая: большасьць гэных паэтаў малявалі жыцьцё беларускага селяніназемляроба ў цёмных фарбах, тады як А. Гурло адзначаўся сваімі вясёлымі, сонечнымі матывамі, якія энэргічна клікалі да волі, да змаганьня перадусім з цемрай. Уся творчасьць А. Гурла кліча да шчасьця і радасьці і паказвае туды дарогу. Возьмем напр. ягоны верш п. н. „Вечар," друкаваны

# Šv. p. † Dr. Branisłaŭ Turonak

Dziŭny los biełaruskaje intelihiencyi. Pierad usim, z pryčyn materyjalnych, ciažka joj prychodzicca zdabyvać aśvietu. Paśla žyćcio tak-ža najčaściej idzie tuha. Asłableny arhanizm zmahańniem z biadoj nia moža dać naležnaha adporu roznym chvarobam i śmierć sieje źnistažeńnie. I tak uściaž paŭtarajucca vypadki pradčasnaje śmierci. Nie dalej jak u minułym miesiacy sioleta ŭ Dukštach pamior dr. Branisłaŭ T u r o n a k, jaki ŭ svaim časie pryjmaŭ dziejnaje ŭčaśćie ŭ biełaruskim žyćci i moh mnoha jašče pamahčy biełaruskamu adradženskamu ruchu.

Radziŭsia jon dn. 22 červienia 1896 h. ŭ Dziśnienskim (ciapier Brasłaŭskim) paviecie, ŭ sialanskaj biezziamielnaj siamji. Vučyŭsia spačatku ŭdoma, paśla ŭ Vilni, a ŭ časie Suśvietnaje Vajny ŭ Jarasłaŭji nad Vołhaj, dzie skončyŭ himnaziju, i ŭ Charkavie, dzie ŭ 1917 h. pačaŭ studyjavać u universytecie prava. Ale z pryčyny revalucyi i matarjalnych niedachopaŭ B. T. pakinuŭ Charkaŭ i viarnuŭsia ŭ rodnuju Brasłaŭščynu. Tut, sabraŭšy niekalki bieł. intelihientaŭ i z ich pomaččadditionally, sarhanizavaŭ 15 pačatkavych biełaruskich škołaŭ, jakija pratryvali praz dva hady biaz ničyjej pomačy.

U 1919 h. Turonak pryjechaŭ u Vilniu i zapisaŭsia ŭ Vilenski Universytet na lekarski fakultet, katory skončyŭ u 1924 h.

Budučy studentam u Vilni, Turonak pryjmaŭ žyvy ŭdzieł u žyćci bieł. studentaŭ i ahułam u biełaruskim žyćci hramadzkim i kulturnym. Byŭ jon adnym z zakładčykaŭ „Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu“. Redahavaŭ pieršy studencki biełaruski miesiačnik „Naš Šlach“.



Dr. Br. Turonak

Ad 1923 da 1925 hodu byŭ redaktaram biełaruskaj tydniovaj hazety „Krynica“. Tady paznajomiŭsia z prakuraturaj i „Łukiškami“, prasiedzieŭšy tam blizu miesiac. Paśla byŭ zvolnieny pad załoh 1000 zł. i addany pad nadzor palicyi.

Pracavaŭ dr. B. Turonak i ŭ Biełaruskim Instytucie Haspadarki i Kultury, uvachodziačy ŭ jahony Centralny Ŭrad, a taksama ŭ inš. bieł. arhanizacyjach. U spadčynie pa sabie astaviŭ Biełarusam dr. B. T. knižycu p. n. „Higijena ŭzhadavańnia dziciaci“, vydanuju ŭ 1928 hodzie.

Žyvučy ŭ m. Dukšty, dr. B. Turonak stała trymaŭ kantakt z biełaruskim rucham i pracavaŭ až da śmierci. Asiraciŭ žonku i dziaciej. Pradčasnaja śmierć pierarvała žyćcio biełaruskaha lekara i kulturnika, akryvajučy žałobaj biełaruskuju intelihiencyju.

Niachaj pamiać ab Im budzie viečnaj!..

J. N.

## Niomnu

*Pomniš... Nioman, jak ja ščasna*
*Dumki z chvałaŭ tvaich kraŭ?*
*Z dumkaŭ-nitak adnačasna*
*Zorny po as pieśniaŭ tkaŭ.*

*Kolki nočak niedaspanych,*
*Kolki cichich viečaroŭ..*
*Straciŭ ja dla ŭschvalavanych*
*Razhałosnych tvaich słoŭ?*

*Kolki žalu utapiŭ ja,*
*Kolki śloz ja zamianiŭ*
*Ŭ hołas pieśniaŭ pieraliŭnych*
*Ŭ šopat cichi našych niŭ!..*

*Ci u ščaści, ci ŭ niadoli*
*Sercam ja ŭsiady z taboj,*
*Bo ŭ tabie šmat mocy, voli*
*I nia znaješsia ź biadoj.*

*K. Kryvič.*

у „Нашай Ніве“ № 33 з 1912 г., дзе паэт кажа:

„Закацілася сонца чырвонае
І даліна сьпяшыць пацямнець...
Узыйшлі ў небе зоркі чароўныя
Сталі весела, ясна гарэць..

Паэт кажа, што закацілася сонца, г. знача, Беларускі Народ страціў вольнасьць. „Далінай“ назваў паэт нашу Бацькаўшчыну, гдзе чужынцы стараліся ададбраць нашу родную культуру, а шырыць цемру. „Узыйшлі зоркі,“ тут паэт меў на думцы лепшых сыноў нашае Бацькаўшчыны, тых адзінак, каторыя, ня гледзячы на гнёт царскага ураду, на ссылкі ў Сібір, працавалі для свайго Народу. Сьвяцілі гэтыя зоркі ня толькі па ўсей Беларусі, але касулькі гэтага сьвятла, ў форме родных слоў, жальбы, суму і крыўдаў, сягалі далёка заграніцу.

Далей:

„Усё замоўкла... І хочацца, хочацца,
У ласцы ціхага сна спачываць
Сэрца б'ецца ў грудзях і просіцца
Невядомае шчасьце спазнаць!...

Паэт кажа: „Невядомае шчасьце спазнаць.“ Бязумоўна, Беларусы ня ведалі, шчасьця свабоды, аб каторым лятуцелі.

№ 40 „Н. Н.“ 1912 г. прыносіць верш п. н. „Мой Шлях:“

„Сумнай дарогай
У сэрцы з трывогай
Доўга іду я...“

У гэтых славах жаліцца паэт, што дарога сьветача Беларусі ёсьць сумная і доўгая.

На гадаўшчыну „Нашай Нівы,“ № 46, 1912, Гурло гэтак піша:

„Сонца прасьветы зіяе над намі...
Цемні імглістай прыходзіць канец:
Мы разлучыліс з прадвечнымі снамі:
Стрэнем-жэ шчасьця і долі вянец!“

Як бачым, паэт ідзе наперад, сьвята веручы, што цемра сярод Беларусаў ужо мінае, што народ прабудзіўся ад трохвяковага сну і падходзе к шчасьцю і долі.

У кожным вершу Гурла спатыкаем багатую кампазыцыю, пяшчоту, мяккасьць і зразумеласьць найшырэйшых масаў вёскі. Вершы ягоныя чытаюцца так лёгка, што ўсьцяж хочацца паўтараць, напр:

„Сьцішна вецер падуў
З мора вольнага
І туман агарнуў
Шыр прасторную...

# Ci majem my što aščadžać

Z hodu ŭ hod 31 kastryčnika kulturnyja ludzi śviatkujuć Dzień Aščadnaści, zaklikajučy šyrokija masy ŭ pieršuju čarhu nie marnavać **hrošaj**, nia puskać ich biez patreby, a adkładać u banki i aščadnickija kasy. Na našym hruncie ideja hetaha śviata čamuści nia pryjmajecca. Kažuć: my na hetulki ŭžo ahaleli, što nia majem čaho aščadžać. Paniaćcie hetkaje naskroś adnak falšyvaje. Bo, jak viedajem, ideja aščadnaści nie ahraničajecca tolki da składańnia ŭ bank hrošaj, a maje šyrejšaje značeńnie.

Aščadnaść prajaŭlajecca, moža navat z vialikšym značeńniem, i ŭ u m i e ł y m v y d a v a ń n i hrošaj, u ŭmiełym imi abarocie. Heta značyć — aščadnaść budzie i tady, kali vyračamsia vydatkaŭ na rečy niepatrebnyja, a budziem ich rabić na toje što daje nam karyść. Tak, naprykład, budzie vialikaja aščadnaść i vialiki moža pajści kulturny ruch, kali-b usie hrošy, abo choć častka ich, jakija vydajucca na harełku i tytun, pajšli na knižki. Takim čynam pašyrałasia-b aśvieta, kultura, uzmacoŭvalisia-b vydaviectvy, ažyvilasia-b litaraturnaja niva i h. d. Harełka-ž, tytun vyciahvajuć z našaha biednaha kraju milijony złotaŭ, katoryja hinuć biazśledna, ci mo' pravilniej budzie skazać, pakidajučy pa sabie śled strašennaha źnistažeńnia mataryjalnaha i maralnaha.

Vialikaj aščadnaściaj budzie tak-ža ŭmiełaje vykarystyvańnie volnaha **času**. Mnoha zdabudziem, kali volnyja chviliny budziem paśviačać samaaśviecie, čytańniu knižak, kulturnaj pracy, razumnym dyskusijam i h. d. A kolki-ž času marna prachodzić na pustych bieztałkovych, a časta škodnych hutarkach?... Navat siarod maładoje biel. intelihiencyi jość adzinki, jakija časta hetaha nie acaniajuć. Jość napr. u ich čas zajmacca hłupstvami, šukańniem dziuraŭ u celym, vydumvać „z-zapłotu“ — schavaŭšysia — roznyja dyversyi i inš. Adzinki takija biazhłuzdna dašukivajučysia ŭ kahoś lohiki, sami lohiku hublajuć i ŭrešcie dachodziać da roli prysłužnikaŭ silnych hetaha śvietu. Tymčasam na pazytyŭnuju biełaruskuju rabotu ani achvoty, ani času jany nie znachodziać.

Usio vyšej skazanaje śviedčyć, što dumku aščadnaści hrošaŭ, času i ŭmiełaje dy naležnaje vykarystyvańnie ich treba pašyrać i siarod biełarusaŭ.

Z. B.

# Nia budziem chvareć na hrypu

Chvaroba zvanaja hrypaj, ci jak jaje niekatoryja zavuć — hišpanka, abo influenca, usim viedamaja. Chto-ž na jaje nie chvareŭ! Byli takija časy, što pašyrałasia jana, prosta, epidemična. Z pryčyny hrypy, asabliva kali chto jaje nie zašanavaŭ, mnoha ludziej nažyło ciažkich chvarobaŭ i mnoha raźvitałasia na viečnaść z hetym śvietam. Chvaroba heta zaraznaja i mocna dajecca ludziam uznaki. Dachtary, vučonyja, niaraz ŭžo dumali ab tym, kab znajści na jaje radykalnaje lakarstva. Daśledžvali jaje i savieckija vučonyja. I voś, jak paviedamlajuć savieckija časapisy, leninhradzki vučony praf. Barykin vyjnajšoŭ syrvatku dla ščapleńnia suproć hrypy.

Dahetul pryčynaj hrypy ŭvažali mikrob zvany „pałačkaju Pfajfera“ (nazoŭ ad niamieckaha vučonaha, jaki jaho adkryŭ u chvorych na hrypu). Ale praf. Barykin ścvierdziŭ, što mikrob (zarazka) Pfajfera, heta tolki pabočnaja abjava hrypy, a nie jaje pryčyna. Barykin pryščeplivaŭ pałačku Pfajfera šmatlikim asobam, jakija dabravolna paddavalisia hetaj aperacyi, ale nivodnaja z ich na hrypu nie zachvareła. Tady jon braŭ u chvorych na hrypu z dychalnych vorhanaŭ (horła) tuju materju padobnuju da śliny, što tam asiadaje-narastaje — zhuščaŭ jaje, ačyščaŭ (filtravaŭ) i atrymaŭ h. zv. „kulturu hrypy,“ takuju silnuju, što adna milijardnaja častka $cm^3$ zaščeplenaja myšy zabivała jaje. Z henaje „kultury“ praf. Barykin pryhatavaŭ syrvatki dla ščapleńnia prociŭ hrypy. Dośledy byccam pakazali, što syrvatka hena nia tolki lečyć chvorych, ale i zabiaspiečvaje ad hrypy zdarovych.

Kali heta ŭsio praŭda, što savieckija časapisy pišuć, kali heta nie źjaŭlajecca tolki reklamaj, to hrypa pieramožana... I pryjdzie čas, što ad jaje budziem baranicca ščapleńniem tak, jak ad vospy, dy nia budziem na hrypu bolš chvareć.

Čik.



Лес кругом зашаптаў
Байкай-казкаю
І усход засіяў
Дзіўнай ласкаю...
Зарунелі палі
Пад праменьнямі,
Стала крыцца ральля
Цьветам зельлямі...
Засьпяваў салавей
Звонкім голасам
І запахла з палёў
Сьпелым коласам...

„Сьвітаньне,“ № 24--25 „Н. Н.“ 1913 г.

Якую-ж глыбокую думку мае гэты верш, хоць яна і схавана прад расейскаю тады цэнзураю.

Гурло, як ужо ўспомнена вышэй, стаяў за беларускую асьвету, да якой усьцяж заклікаў свой народ славамі (№ 37 „Н. Н.“ з 1913 г.):

„Не гасіце агнёў... Хай гараць весялей,
Хай пылаюць іскрыста ў цьме ночы..
Не гасіце агнёў... Хай праменьні ясьней
Асьвячаюць праспаныя вочы.
Не гасіце! Бо досі ўжо цьме панаваць —
Няхай полыме жаркае ўецца...“

Бачым тут, што аўтар проста, падае прыказ, каб не гасілі агнёў, — хай — кажа — гарыць і сьвеціць праспаным вачам, а полымя хай ўецца.

Гэта ўзор творчасьці А. Гурло да 1915 г.; пазьнейшая творчасьць нябожчыка як і наагул творчасьць беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў з межаў Савецкае Беларусі, для нас сягоньня, на жаль, недаступная.

У 1915 г. А. Гурло быў узяты ў царскую армію, а пасьля быў у рэвалюцыйным балтыцкім флоце, з каторым, між іншым, браў чыннае ўчасьце ў здабыцьці царскага Зімовага Палацу, дзе быў і ранены, астаючыся калекам на ўсё жыцьцё.

Пасьля Сусьветнай Вайны А. Гурло вярнуўся на Бацькаўшчыну, для каторай з усей душы і сэрца пачаў узноў працаваць. Найбольш актыўным быў паэт у 1921—23 г. З творчасьці яго выйшлі ў асобных выданьнях зборнікі „Барвёнак,“ і „Сузор'я.“ Творчасьць апошніх гадоў ягонага кароткага жыцьця, а між інш. і аўтобіографічная паэма, асталіся пераважна ў рукапісах.

Трэба дадаць, што апрача калецтва з вайны, каторае мучала паэта, хварэў ён яшчэ і на сухоты, што й было прычынай ягонай сьмерці.

*З нашай долі і нядолі*

## *З цыклю: „Хутары“.*

*Каб ня хутар пераноскі,*
*Дык стаяла-б хата у Зоські*
*Дваццаць год і можа з гакам,*
*А цяпер вось будзе смаку.*
*Дай падвалкі, бэлькі, столь —*
*Грошай-жа няма й на соль.*
*Каб „харомы-ж“ разабраці,*
*Дык дажджу трэ Зосі ждаці,*
*Бо у вецер-сухавей*
*Ня ўпільнуеш на'т дзьвярэй. —*
*Парахном пайдзе да Бога*
*Ўсенька Зосіна падлога...*
*Што рабіць з пазыкай той,*
*Як дзьве сотні дадуць ёй?!*
*Землямеру за „памяры“,*
*Радным даць дзесяткаў пару,*
*То на гэта, то на тое,*
*А йшчэ голых дзетак двое,*
*І зіма на нос усьсела*
*Дроў у хаце — ні палена...*
*Ці-ж ня выймуць хутары*
*Зосі душу без пары?..*

Шэні, 10.X.38. *Мікола Засім.*



## Zaciemki

**„Przegląd Wileński“ nia budzie vychodzić.** „Przegląd Wileński“ — časapis tutejšych palakoŭ, demakrataŭ, na čale z red. L. Abramovičam, — jaki vychodziŭ ad 1912 h., z pryčyny słaboha zdaroŭja redaktara L. Abramoviča i častych kanfiskataŭ, ad 6.X.38 pierastaŭ vychodzić. Časapis hety časta źmiaščaŭ prychilnyja artykuły ab spravach biełaruskich i litoŭskich.

**Kandydaty ŭ pasły.** 14.X abvieščany byŭ u presie śpisak kandydataŭ u pasły na Sojm. Siarod kandydataŭ niama nivodnaha biełarusa. Pry hetym treba zaznačyć, što jak ahitacyja da bajkotu vybaraŭ, tak i zmušańnie vybarščyka da hałasavańnia na tych kandydataŭ, katoryja vybarščyku nie padabajucca — zakonam zabaroniena.

**Mocnaja reakcyja.** Vilenskaja litoŭskaja hazeta „Aidas“ z 2-ha min. m-ca padaje, što Sajuz Litoŭskich Piśmieńnikaŭ u Koŭnie pastanaviŭ ničoha nia tłumačyć z polskaj litaratury na litoŭski jazyk datul, pakul polskija ŭłady nie adčyniać zakrytaha Litoŭskaha Navukovaha T-va ŭ Vilni.

**Ukraincy i vybary.** U spravie vybaraŭ u Sojm i Senat ukraincy padzialilisia na dva łahiery. Adzin łahier, da jakoha naležać Ukrainskaja Sacyjał-Demakratyčnaja Partyja, Front Nacyjanalnaj Jednaści i Družyna Kniahini Olhi — na vybary nia jdzie, a druhi — Ukr. Nac.-Demakr. Abjednańnie (UNDO) — ŭ vybarach pryjmaje ŭdzieł i maje byccam atrymać 15 mandataŭ dla pasłoŭ i 3 dla senataraŭ.



---

**Dr. Jadviha i Stanisłaŭ Hrynkievičy** 14)

# Pieršaja pomač pry raptoŭnaj chvarobie.

## Aparańnie.

Aparańnie byvaje troch stupieniaŭ.

a) Lohkaje aparańnie, kali skura na paškodžanym miescy čyrvonaja, niama na joj adnak puzyroŭ. Chvoraje miesca treba pasypać dermatolavym paraškom, abo pašmaravać niejkaju kłustaściu (vazalinaju, śviežaju alivaju). Pry macniejšych bolach pakłaść na toje miesca hanučku, namočanuju bornaju vadoju.

b) Druhaja stupień aparańnia, kali na skury źjaŭlajucca puzyry.

Na chvoraje miesca prykładać tady miašanku z roŭnych čaściaŭ *lannoha aleju i vapiennaje vady.* Vialikija puzyry lepš prakałoć prapalenaju hołkaju. Kali niama pad rukoju pamianionaje miašanki, možna prykładać bornaju maściaju (5%—10%). Kali-b pačała sabiracca materyja, dobra pasypać paraškom, jaki zaviecca kseroformam.

c) Treciaja stupień — kali robiacca ŭžo rany. Rany henyja nadta niebiaśpiečnyja dziela taho, što skroś rany mohuć uvajšci bakteryi i zarazić arhanizm. Lekavać ich možna adnolkava, jak pry aparańniach druhoje stupieni. Kali-b henyja rany byli vialikija, dyk dziela vialikaje ichniaje niebiaśpieki, lepš źviarnucca da dochtara.

## Atručańnie.

Atrucicca čałaviek moža: 1. hazami; 2. atrutami niahryzučymi; 3. atrutami jedkimi, hryzučymi; 4. atrutami z alkaloidaŭ (najvažniejšyja ŭ praktycy hryby i niekatoryja jahady).

1. **Atručańnie hazami.** a) Vuhalnaj kiślaju, jakaja moža znachodzicca ŭ kiepska pravietranych izbach, sklepach, studniach i h. d.

b) Čadam.

c) Hazam z kanału ci adychodnych miascoŭ (prykł.: pry ačyščańni kanałaŭ).

d) Śvietlanym hazam.

*Ratavańnie.* Uva ŭsich prypadkach hazavaha atručańnia treba chvoraha vynieści na śviežaje pavietra. Kali atručany niaprytomny, ale dychaje dobra — treba dać jamu paniuchać eter, našatyrny špirt, raścirać cieła šarpataj hanučkaju ci rukavicaj, sahravać cieła, abłažyć butelkami z ciopłaj vadoj. Tvar treba spyrskivać chałodnaj vadoj. Kali chvory robicca prytomny, treba dać jamu napicca vady, ci vina abo kaniaku z harbataj, abo kavy. Niaprytomnamu nie davać pić, kab nie zadušyŭsia. Chvory pavinien ležać hałavoj nižej tady, kali tvar jahony biely. Kali tvar jahony čyrvony, tady hałava pavinna być vyšej čym usio cieła.

# Zbiełaruskaha žyćcia

**Zaduški.** Biełaruskaja moładź i hramadzianstva ahułam, za prykładam minułych hadoŭ, na Zaduški 2.XI a 17 hadzinie adviedvaje mahiły na Rośsie zasłužanych Biełarusaŭ. Zborka na mahile Kaz. Svajaka.

**Inauharacyjny Viečar u BSS.** 22.X u Vilni adbyŭsia Inauhuracyjny Viečar pracy Biełaruskaha Studneckaha Sajuzu u novym 1938-39 školnym hodzie. Apisańnie hetaha śviata bieł. stud. moładzi padadziena ŭ studenckim dadatku da našaha časapisu. Na hetym-ža miescy z vialikaj radaściaj chočam padčyrknuć, što Viečar adbyŭsia sapraŭdy vielmi ŭdała. Moładzi była poŭnaja zala. Referat stud. J. Jaroški byŭ hłybaka patryjotyčny, umieła i cikava ŭłožany, a taksama ŭmieła i pryhoža pračytany. Pryhožyja i adpaviednyja da viečaru byli tak-ža deklamacyi vieršaŭ M. Mašary i K. Bujło.

**Biełaruskaja pieśnia-aryja.** Viedamy kampazytar, Praf. K Hałkoŭski ŭ Vilni niadaŭna apracavaŭ biełaruskuju narodnuju pieś niu „Oj, płyli husiołki" dla salista tenara z akampanijamentam fortepijanu. Pieśnia heta źjaŭlajecca vialikšym narodnym tvorym z viasielnych biełaruskich abradaŭ, vielmi melodyjnaja i niazvyčajna pryhožaja. Praf. K. Hałkoŭski nazvaŭ jaje pieśniaj-aryjaj, katoraj biełarusy mohuć hardzicca. Śpiavać hetu pieśniu budzie naš słaŭny mastak Michał Zabejda-Sumicki na najbližejšym svaim kancercie ŭ Vilni, jaki maje adbycca jšče sioleta.

**Schod Baćkaŭskaha Kamitetu Bieł. Himnazii ŭ Vilni.** 9.X. siol. adbyŭsia ahulny schod Baćkaŭskaha Kamitetu Vilenskaje Biełaruskaje Himnazii, na jakim vybrany novy ŭrad Kamitetu, u skład katoraha ŭvajšli: J. Paźniak — staršynia, V.Kraka—skarbnik i Voŭk-Levanovič—sekratar. Novy ŭrad Kamitetu adrazu prystupiŭ da vyjaśnieńnia spravy adviedvańnia niejkimi ludźmi baćkoŭ vučniaŭ Bieł. Himnazii, ab čym my pisali ŭ № 19 „Šlachu Moładzi" sioleta.

**Referat ab historyi biełaruskaha jazyka.** 16.X siol. u Biełaruskim Navukovym Tavarystvie ŭ Vilni dr. Jan Stankievič pračytaŭ referat na temu: „Historyja biełaruskaha jazyka"

**Biełaruskamu Abjezdnamu Teatru„Połymia"nie dajuć kancesii.** Hod z lišnim tamu nazad hrupa biełaruskaje intelihiencyi ŭ Biełastoku załažyła Biełaruski Abjezdny Teatr „Połymia." Praz uvieś čas, da apošnich dzion, teatr hety staraŭsia atrymać ad uładaŭ kancesiju, adnak jaje nie dastaŭ. Nadoviačy, jak nas paviedamlajuć, pryjšoŭ admoŭny adkaz i z Ministerstva Unutranych Spraŭ, kudy kiraŭniki „Połymia" taksama źviartalisia z prośbaj vydać im kancesiju (prava, dazvoł) na ładžańnie biełaruskich pradstaŭleńniaŭ i kancertaŭ u našym krai. Dziela hetaha „Połymia" prymušana likvidavacca, arhanizatary jaho adnak dumajuć jašče adklikacca da Najvysejšaha Administracyjnaha Trybunału.

**Z vydavieckaje nivy.** Na pačatku m-ca kastryčnika siol. vyjšli ŭ Vilni dźvie novyja biełaruskija knižycy:

1. *„U česć 950-hodździa Chryščeńnia Biełarusi."* Pad hetkim nazovam vydana asobnaj brašurkaj pramova Ks. Ad. Stankievіča skazanaja na nabaženstvie ŭ kaśc. śv. Mikałaja, jakoje adpraviŭ a. M Maskalik z nahody jubileju 950-hodździa chryścijanstva ŭ Biełarusi. Brašurka kaštuje 10 hrašoŭ, z pierasyłkaj 15. Hrošy možna prysyłać paštovymi značkami. Vyd. „Chr. Dumki."
2. *„Bosyja na lodzie."* Paema. Napisaŭ jaje Aleś Ajer, pradstaŭlajučy žyćcio i žudaści SSSR. Knižyca vyrazna antykamunistyčnaja. Abyjmaje jana 24 bač. Cana 20 hr. Vydańnie Ul. Znamiaroŭskaha.

---

Vopratka pavinna być loznaja, i ŭsiudy dzie ciśnie—rasšpilena.

Kali-b atručany nia dychaŭ, treba rabić jamu dychańnie štučnaje. Časta pamahaje paciahvańnie jazyka tudy i nazad. Kali jazyk zapadajecca, treba tady dolniuju śkivicu padniać da pieradu.

Zdarajecca, što atručany pačynaje vanitavać. Treba tady jahonuju hałavu adviarnuć u bok, kab chvory vanitami nie zadušyŭsia.

Čałaviek, jaki ratuje atručanaha, pavinien ratavać jaho spakojna, z razvahaj i prytomnaściu. Kali atručany lažyć u sklepie ci niejkaj jamie, toj, chto ratuje, musić zaviazać sabie nos i rot hanučkaj, zmočanaj u chałodnaj vadzie z vocatam ci ŭ vapiennaj vadzie, kab nia dychać samomu atručanym pavietram.Kali chvory lažyć u izbie,dyk toj chto ratuje pavinien zaraz-ža adčynić vokny, ci pabić šyby i praz mament samomu ŭdychnuć śviežaha pavietra. Dźviery treba pakinuć adčynienymi.

Kali chvory atruciŭsia śvietlanym hazam, tady nia možna ŭ izbu ŭvachodzić z ahniom, kab nia vyklikać vybuchu

**2. Atručańnie niahryzučymi atrutami.** Da hetych atrutaŭ naležać niekatoryja leki, jakija treba ŭžyvać uvonkach, dalej benzyna, dzieraŭlany śpirt, haza, roznyja farby, hryby, papsovanaje miasa, ryby, jahady. Atrucicca možna i h. zv. grynšpanam, kali jada varycca ŭ niabielenych, miadzianych harškoch.

*Ratavańnie.* Pry hetych atručańniach treba nieadkładna kliknuć lekara i raskazać jamu, čym chvory atruciŭsia, kab moh jon zabrać z saboj adpaviednyja leki. Pakul lekar pryjdzie, treba staracca, kab chvory moh vykinuć sa straŭnika atrutu, i dziela hetaha treba vyklikać u chvoraha vanity, kazytajučy jamu korań jazyka i zadniaha horła pry pomačy pierynki ci palca. Možna taksama davać chvoramu pić ciopłuju solenuju vadu z razpuščanym mylam.

Kali ŭžo projdzie paru hadzinaŭ ad mamentu atručańnia, treba chvoramu dać napicca vina, ci harbaty z kaniakom, abo kavy.

**3. Atručańnie jedkimi, hryzučymi atrutami.** Da hetaj hrupy atruty naležyć: voctavaja esencyja, sierkavaja kiśla, solnaja kiśla, łuh, jod, lapis, karbołka, sulema i t. p.

*Ratavańnie.* Pry hetych atručańniach nia možna davać chvoramu na vanity, kab aparanaja ścienka straŭnika ci stravachodu ad natuhi pry vanitach nia tresnuła.

a) Pry atručańni *kiślami*: treba dać pić małako sałodkaje, vapiennuju vadu, palenuju mahnezyju, vadu z białkom, masła.

b) Pry atručańni *łuham*: treba dać pić sok z cytryny, razpuščanuju ŭ vadzie cytrynovuju kiślu, vinny vocat z vadoj, kislaje małako.

c) Pry atručańni *jodam*: dać jeść krachmał raspuščany ŭ vadzie, raściortuju bulbu.

d) Pry atručańni *lapisam* (čortaŭ kamień): pić salonuju vadu.

## Што чуваць

— **Польшч**, пасьля далучэньня ад **Чэхаславаччыны** Цешынскага Сьлёнска, ськівала натугі свае палітыкі, каб мець супольную граніцу з **Мадзяршчынай** (Вугрыяй). У сувязі з гэтым між польскімі і мадзярскімі палітыкамі адбываюцца частыя нарады. Былі адпаведныя захады прад **Мусолінім** і ў **Гітлера**. Надовячы езьдзіў так-жа мін. Бэк у **Румынію**. Справа ў тым, што мадзяры хацелі-б забраць пад сваю ўладу Закарпацкую Украіну, каторая дагэтуль належала да Чэхаславаччыны і такім чынам, маючы супольную граніцу з Польшчай, бараніліся-б ад нямецкага наступу, калі-б ён загразіў Польшчы і Мадзярам, бо як у Польшчы так і ў Мадзяршчыне ёсьць нямецкая нацыянальная меншасьць. Тым больш, што Немцы, займаючы Судэцкі Край, ужо занялі места Позоны, у каторым большасьць ёсьць мадзярская, што моцна забалела Мадзяршчыне. Справа аднак супольнае польска-мадзярскае граніцы напатыкае на вялікія перашкоды. 1. Чэхі пасьля адступленьня з Судэцкага Краю і Цешынскага Сьлёнску, далі **Славакам і Закарпацкай Украіне** поўную **аўтаномію** і цяпер гэтыя новыя дзяржавы, злучаныя з Чэхамі фэдэрацыяй, і пры іх помачы, усімі сіламі бароняцца ад новага напору Мадзяраў. Аўтаномія Славакіі і Закарпацьця не дае ніякіх падставаў Мадзярам чапляцца да гэных краёў. Ды йшчэ тады, калі яны згаджаюцца адступіць Мадзяршчыне тыя, праўда, малыя абшары, дзе большасьць становяць мадзяры. 2. Румынія таксама неахвотна глядзіць на справу польска-мадзярскае граніцы, бо тады яна разлучыцца з Чэха-Славацка-Закарпацкай фэдэрацыяй, з якой знаходзіцца ў саюзе і таму, што баіцца ўзмацненьня Мадзяраў, якія маюць прэтэнсіі і да Румыніі, хочучы адабраць ад яе Сяміградзьдзе. 3. Урэшце супроць польска-вугорскае граніцы выступаюць Немцы, разумеючы, што такая граніца была-б скіраваная проціў іх. Пры тым ані **Англія** ані **Францыя** мадзярскіх імкненьняў не падтрымліваюць. Такім чынам справа гэнае граніцы прадстаўляецца безнадзейна. Быццам нават Мадзяры, пабачыўшы ўсё, мякчэюць у сваіх дамаганьнях. —Чэскія палітыкі пачынаюць арыентавацца на Нямеччыну.

— **Англіі і Францыі** ня прыйшлося доўга цешыцца мірнымі вынікамі Мюнхенскай канфэрэнцыі. Ужо 9.X Гітлер выступіў з вялікай прамовай і моцна заатакаваў Францыю і Англію. Апрача таго ў Францыі (ў правінцыях Эльзацыя і Лётарынгія, дзе жывуць часткава немцы), абвешчана дамаганьне аўтаноміі. У адказ на прамову Гітлера, Францыя і Англія пастанавілі павялічыць свае збраеньні.

— **На Далёкім Усходзе** японцы далей перамагаюць Кітайцаў. Забралі ўжо м. Кантон — сталіцу паўдзённага Кітаю і прыбліжыліся да м. Ганкоў.

— У **Менску і Кіеве** выкліканы былі вайсковыя бунты супроць камуністычна-маскоўскае палітыкі. Бунтаўшчыкоў жорстка ўсьмірылі. Газэты падаюць, што загінуў дзесь слаўны данядаўна савецкі маршал Блюхер і шмат іншых ведамых камуністычных камандзераў. Некаторыя пішуць, што паехалі яны ў Кітай памагаць кітайцам змагацца з Японіяй. Іншыя-ж кажуць, што Блюхер і 43 кам. генэралаў сядзяць арыштаваныя. У СССР і гэта можа быць. Трэба аднак сказаць, што раней пададзеная вестка аб арышце марш. Будзённага, якую і мы перадрукавалі, ня спраўдзілася.

— У **Палестыне** англійскае войска праводзіць вострую пацыфікацыю. У многіх мясцох адбываецца фармальная вайна. Перамагае, ясна, англійскае войска, дастаецца-ж у першую чаргу арабам і жыдом.

*jn*

---

e) Pry atručańni *karbołkaj*: dać pić anhielskuju sol.

f) Pry atručańni *sulemaj*: pić syryja jajca, sałodkaje małako, myła, draŭlany vuhal u parašku.

g) Pry atručańni vinnym *śpirtam (harełkaj)* dajecca $^1/_4$—$^1/_2$ harbatniaj łyžački amonjačnaj soli abo 2—3 kropli našatyrnaha śpirtu z vadoj

h) Pry atručańni *fosfaram*: vyklikać u chvoraha vanity. Nia možna davać małaka, ale advar ziarniat lonu abo terpentyny: 2 kropli na 1 šklanku vady

i) Pry atručańni *myšjakom* (*arsenam*): treba vyklikać vanity. Paśla dać pić ciopłaje małako z vapiennaj vadoj, abo palenuju mahnezyju.

## Hrybny jad.

Atruta znachodzicca ŭ muchamory, pahancy i biełaj pahancy. Atručany hetymi hrybami maje vanity, volnaść, bred, sudarhi, hłuchatu i robicca ciaprytomnym. U ciažejšych prypadkach puls robicna słaby, załozy ślinnyja i potavyja bolš vydzialajuć. Zrački zvužyvajucca, čałaviek nadta pacieje. ciakuć u jaho ślozy. Aprača pahanak i muchamoraŭ čałaviek moža atrucicca jadučy smarščki i trufeli. Ačyścić hryby ad atruty možna sparyŭšy ich haračaju vadoju. Tady hetyja hryby robiacca niaškodnymi.

Pry atručańni trufelami i smarščkami apRača młosnaści, vanitaŭ i volnaści, chvory addaje kryvavuju maču, maje sudarhi, žaŭtačku, zrački rasšyrajucca. Śmierć moža być vyklikana paraližam serca. Kali hryby zdarovyja papsujucca, tady ŭ čałavieka vystupaje chvaroba, padobnaja da chalery.

*Lačeńnie.* Treba vydalić jad pramyvańniem žałudka rasčynaju chininy abo pračyščajučymi lekami. Kab nie asłabieła serca, treba dać vypić kaniaku, harełki. Adnačasna davać pić cieraz kožnych niekalki minut (rasčynu *tanniny* (harbatniuju łyžačku na šklanku vady) pa adnej łyžcy na raz.

## Miasny jad.

Aznaki atručańnia spačatku pakazvajuć na vostry gastro-enterit, jaki prajaŭlajecca młosnaściu, vanitami i bolami ŭ žyvacie. Chutka pajaŭlajecca słabaść, hałavakružeńnie, chvory mleje, zrenki vačej rasšyrajucca. Pavieki časta byvajuć apuščanyja ŭniz, chvory nia moža pałykać. Časam chvory pierastaje dychać, a serca nie pracuje.

*Lačeńnie.* Pramyvańnie žałudka, treba vyklikać vanity i pračyścić žyvot. Nieadkładna patrebnaja pomač lekara.

## Syrny jad (tyrotoksyja).

Vyklikajuć jaho bakteryi, jakija znachodziacca ŭ syry.

*Aznaki.* Volnaść, jak pry chalery, boli ŭ žyvacie, zavaroty hałavy, ahulnaje abniadužańnie, puls słaby, sinaść skury.

*Lačeńnie.* Treba pramyvać žałudak i davać pryski; dziela hetaha nieabchodna tut kliknuć lekara.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.



## З КРАЮ

### Сьвяшчэньнік вучыць бел. праваслаўных дзяцей маліцца папольску.

*Сухенічы, Дубенскай вол., Горадзенскага пав.* Усе тутэйшыя жыхары беларусы і праваслаўныя. Любяць сваю мову і ня чураюцца яе. Тымчасам наш сьвяшчэньнік пачаў чамусьці вучыць беларускіх праваслаўных дзяцей рэлігіі ў школе папольску. Дагэтуль там-жа вучыў ён бел. дзяцей маліцца парасейску. Народжа чакае і пытае, калі-ж гэта нарэшце пачнуць у нас сьвяшчэньнікі карыстацца беларускай мовай і калі яны ўрэшце беларускае дзіця будуць вучыць рэлігіі пабеларуску. Час на гэта ўжо найвышэйшы. Над гэтым павінны крыху больш падумаць вышэйшыя царкоўныя ўлады і ўзяць пад увагу, што чужая мова ў царкве адганяе беларускіх сялян ад Праваслаў'я.

*С. Кр.*

### Добрыя людзі заводзяць добрыя парадкі.

*Пружана.* У нашым мястэчку ёсьць земляробскі гурток, да якога належыць і шмат маладых беларусаў. Дасюль у гэтым гуртку ня было ніякага парадку. Дзеля таго нашыя сяляне пачалі „бунтавацца" і на кіраўнічыя становішчы выбралі сваіх людзей, адсунуўшы „паноў." Новыя людзі прыступілі да працы з вялікімі плянамі і ўжо пачалі людзям памагаць. Адным словам добрыя, с в а е людзі заводзяць добрыя парадкі, а з гэтага навука, што ўсюды трэба выбіраць і падтрымліваць сваіх чэсных людзей.

*Той самы.*

### Niepryhožy abjaŭ na feście

*Staryja Haby, Pastaŭski pav.* U našaj vioscy mnoha jość moładzi, ale, nažal, nichto nie biarecca za kulturnuju pracu. Praŭda, časami byvajuć u nas viečarynki, ale jany pieravažna kančajucca kryvava. Voś i sioleta na „Pakroŭčyk" byŭ u nas fest i viečaryna. Na viečarynie spačatku usio było dobra, a paśla niekalki čałaviek napiŭšysia harełki pačali bojku, u vyniku jakoj adnaho chłapca parezali. Takija bojki tak nia pryhožyja i prykryja, što až stydna ab ich pisać. Moža adnak publičny styd pryčynicca da ŭspakajeńnia i daviadzie moładź da rozumu, da rodnaje knižki, hazety i da kulturnaha žyćcia. Dyk, Braty Darahija, adumajciesia i nia budźcie paśmiešyščam dla druhich.

*Al. Šab—ko.*

### *Паштовая скрынка*

**А. Заранцы:** З двох апошніх вершаў адзін быў надрукаваны у № 20 „Шл. Мол." і сканфіскаваны. Баімося, што такі самы лёс можа спаткаць і другі верш. Дзеля таго ад друку яго пакульшто стрымліваемся. Аднак просім пісаць далей. Прывітаньне!

**К. Крывічу:** Матар'ялы атрымалі. Верш друкуем, весткі так-жа выкарыстаем. За ўсё дзякуем.

**М. Засіму:** Верш друкуем, пісьмо С. Х. перашлём. Прывітаньне!

**М. С.:** Вашае пісьмо і адказ на яго надрукуем у наступным нумары „Шл. Моладзі."

**А. Г.:** У прысланых вершах, нажаль, няма паэзіі, а проста набор слоў для рыфмаў, дык ня можам іх друкаваць. Няхай аднак Вас гэта ня сумуе, а пабудзіць да далейшае творчае працы. З вестак скарыстаем.

**Б. Камар.:** Атрымалі, дзякуем.

**У. Воўку:** Паведамляем, што верш Ваш аб хмарах быў надрукаваны ў № 20 „Шл. Мол." і сканфіскаваны.

**Я. Каліне:** Вершы, нажаль, слабыя, за весткі дзякуем.

## Usiačyna

**Śmierć praf. M. Zdziechaŭskaha.** 5.X.38 u Vilni pamior vialikaj słavy piśmieńnik i navukoviec praf. M. Zdziechaŭski — b. rektar Vilenskaha Universytetu. Praf. M. Zdziechaŭski cikaviŭsia ŭsimi prajavami žyćcia i byvaŭ časami na biełaruskich kulturnych i litaraturnych śviatkavańniach.

**Zhareła „Gwiazda Polski".** Polskija latuny i navukoŭcy, paśla doŭhich pryhataŭleńniaŭ, 14.X siol. mielisia na specyjalna pryhatavanym balonie „Gwiazda Polski" lacieć u stratasferu — ŭvyś za vobłaki. U hety adnak dzień, z niavyjaśnienych dahetul pryčyn, balon „Gwiazda Polski" zhareŭ.

**Pamior Kautsky.** 17.X.38 u Amsterdamie (Holandyja) pamior adzin z najvydatniejšych teoretykaŭ marksizmu i sacyjalistyčnaje demakracyi Karol Kautsky. Z pachodžańnia byŭ jon niemcam, apošnim časam byŭ palityčnym emihrantam. Vystupaŭ jon vostra suproć hitleryzmu, fašyzmu, a tak-ža suproć taho, što dziejecca ŭ SSSR. Pamior majučy 84 hady.

**Kolki kaštavała mabilizacyja.** Tryvožnaja sprava čechasłavaččyny i Sudetaŭ, choć končyłasia biez vajny, adnak kaštavała mnoha hrošaŭ. Samaja tolki mabilizacyja vojska i pryhataŭleńnie da vajennych vystupleńniaŭ kaštavała Eŭropie 60 milijardaŭ frankaŭ (14,260,000,000 zł.). Anhlija vydała 22 miljr. fr., Niamieččyna 19 miljr. fr., Francyja 10 miljr. fr., Italija 2 miljr., Holandyja i Belhija pa 1 z pałavinaju miljr., čechasłavaččyna, Madziarščyna i Polšč pa 1 milijardzie frankaŭ. Apráča hetaha da vajny pryhataŭlałasia SSSR i Rumynija i hetyja haspadarstvy taksama mieli vydatki, tolki ich nie apublikavaŭ nichto.

**Арцёму Чорнаму:** Вестку друкуем надрукуем так-жа верш аб дзяўчыне, іншыя-ж ня пройдуць праз цэнзуру. Прывітаньне!

**У. Х.:** Вершы слабыя, папраўляць, іх немагчыма, хіба на нова перарабіць. Ня вытрыманы ў іх ані рым, ані рытм. Трэба больш чытаць і працаваць над сабой.

**А. Šabł.:** Karespandencyju drukujem i prosim pisać čaściej.

**С. Кр::** „Шл. Мол." высылаем акуратна, карэспандэнцыю друкуем. Прывітаньне!

**С. Качан.:** Падпіска аплачана акуратна. Дзякуем.

**Той самы:** Карэспандэнцыю друкуем. Вершы, нажаль, слабыя.

**М. Ліць.:** Кніжкі, у меру магчымасьці, пастараемся выслаць.



*„Шлях Моладзі" рэдагуе Рэдакцыйная Калегія. Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ" выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар каргатэкі „przekazu rozrachunkowego" 59.

Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК